чыста зграбаюцца. Вельмі цэнным гноем ёсьць і попел з дрэва, рассеены ў разбаранаваную сенажаць і — па магчымасьці — прыкрыты.

З штучных гнаёў — каму толькі зварот на гэта пазволіць — найлепшым бадай ёсьць тамасшляк (фосфар) і каініт (паташ). На сенажаці ніколі нягноеныя даецца ў першым годзе аж 10 мяшкоў (па 100 кілё кожны) каініту і 7 мяшкоў тамасшляку на гэктар. Тамасшляк і каініт можна цесна прад высевам мяшаць і высейваць за раз; пакідаць аднак мешанку нявысееную ня можна — сапсуецца. У наступных гадох даецца што другі год па 5 мяшкоў каініту і што трычатыры гады па паўтара мяшка тамасшляку на га. Прад кожным засевам гнаёў трэба разы два праехаць накрыж вострай бараной, каб зьдзёрці мох і даць вольны доступ паветру да карэньняў травы.

З цэлай пэўнасьцю можна сказаць, што дагляд і ўгнаеньне сенажацяў сягоньня часта значна лепш аплачваецца, чымся такі-ж дагляд за полем аромым. Толькі адзін варунак: сенажаць прад гнаеньнем мусіць мець урэгуляваную вогкасьць. Мокрая сенажаць прад угнаеньнем павінна быць асушана, а сухая — заліта. Інакш шкада працы і коштаў.

В. В.



## Як даіць каровы.

Умелае даеньне каровы — гэта вельмі важная рэч у малочнай гаспадарцы, бо само яно ўжо збольшуе колькасьць малака, робіць яго клусьцейшым, папраўляе спраўнасьць малочных гручолаў і наагул усей малочнай жывёлы. Нашы людзі ў большасьці замала або і зусім ня цікавяцца гэтым пытаньнем і таму паносяць вялікія страты.

На чым-жа палягае добрае даеньне кароў?

Трэба ведаць, што найважнейшай ёсьць рэчай, каб здоіваць карову да апошняй каплі малака. З гэтага маемо патройную карысьць: першая — малака атрымоўваецца наагул больш; другая — гэта малако клусьцейшае, бо самыя апошнія каплі малака маюць у сабе найбольш туку (клустасьці) і таму яны, як сьмятана (у гаршку), найвышэй у вым'і зьбіраюцца (састаіваюцца) і пры самым канцы выдойваюцца. Малако з пачатку даеньня мае ўсяго каля 1.5 проц. туку, а пры самым канцы гэты працэнт падымаецца аж да 12. Трэцяя карысьць тая, што карова раздойваецца, бо — як сказана — папраўляюцца малочныя гручолы, якія, добра выдаеныя, дадуць больш малака пры наступным даеньні. І наадварот, вым'я раз добра неапарожненае псуецца і адвыкае ад правідловае дзейнасьці.

Каб добра выдаіць карову, на гэта трэба спосабу і сілы. У нас сядзе жанчына пад карову і тыцкае двума пальцамі, яшчэ і мачае іх раз-за-разам у малацэ, аж гідка глядзець. Лепш даіць цэлая далоняй; знача,

natury, časta spatykanyja siarod trusoŭ, majuć pryčynu ŭ pradčasnym zapłodžyvańni, tymbolš kali płodziacca štuki blizkija da siabie pa kryvi (pasvajačanyja). Na heta treba źviarnuć asablivuju ŭvahu.

**Čym i jak karmić trusoŭ.** Skazana było ŭžo, što trusy jaduć usio i što jany vielmi žyrkija. Heta nia znača adnak, što trusu možna davać usio, što papała, bo niekatoryja pašy — a ich jość nia mała — trusom vielmi škodziać. Da takich škodnych pašaŭ naležać miž inšym: voŭčaje łyka, voŭčaja jahada, maki, zialonyja hrečka i šalbabon (fasola), sałata, kukol, syraja bulba; škodziać trusu liścio višni, čarešni, ślivy, nia lubiać listoŭ topalu. Škodzić trusom, kali źjaduć šmat mokraj kaniušyny abo takoha-ž kapuścianaha liścia. Lubić-ža trus: liścio i hałuzki biarozy, lipy, asiny, klonu, dubu, laščyny, rabiny i navat jołki. Morchva i buraki karmovyja, bručka, repa i varanaja bulba — heta lubimaja paša trusa. Ale pry ŭsim hetym nia možna zabyvacca, što kali niechta dumaje mieć dachod z trusoŭ, dyk musić mieć dla ich dobraje siena, a na abmiešku: votruby, hrečynu, žałudy, lnianoje siemia, makuchi, avios (asabliva dla maładych), jačmień pšanicu.

Karmić trusoŭ treba prynamsi dvojčy na dzień, pry čym ranicaj dajecca jamu paša bolš ci mienš vadzianistaja, napr. buraki, morchva (asabliva dla maładych i rasovych trusoŭ), bulba, usialakaja kišonka i h. d., a ŭviečary— suchaja, napr. avios, siena. Viečaram taksama treba trusom dadavać i sol, katoruju jany vielmi lubiać i šmat patrabujuć: na štuku darosłuju ŭ dzień — 2 gramy. Druhoj asablivaściaj trusa jość toje, što jon lubić u damiešcy da pašy horkija dadatki, jak napr. pałyn, listy chrenu, dzikoj cykoryi; taksama i sušanaja krapiva. Z hetaje pryčyny radziać źbirać krapivu za zialona, viazać jaje ŭ nievialikija pučki i sušyć na zimu ŭ suchim, pravieŭnym miescy. Taksama pryhataŭlajecca zahatoŭka i sučkoŭ (halinak) vierby.

Kišonki dla trusoŭ pryhataŭlajucca hetak: kapuścianyja listy, bulbianaja nać, roznyja sarniaki (pustazielle), rubajucca i składajucca, jak kapusta ŭ boččy, płastami, solacca i staranna ŭbivajucca; paśla prykryvajucca denkam i pryciskajucca kamieniem. Praz 6—8 tydniaŭ kišonka hatova. Dajecca jana krolikam hatavanaja. Buraki, bručka, repa dajucca trusom u stanie śviežym, abo jak kišonka.

сіська (дойка) абымаецца пры самым вым'і вялікім і паказальным пальцамі, а рэштай пальцаў перабіраецца па чарзе, зьверху ўніз (як іграючы на жалейцы) і выціскаецца малако на вонкі.—Другая рэч, якую робіцца— гэта масажаваньне вым'я; значыць прад даеньнем вым'я гладзіцца і як яно крыху са грэецца і зробіцца тугім — лёгка націскаецца. Тады наступае даеньне, пры чым сядаць трэба з правага боку каровы і апёрціся галавой аб каровін жывот. Калі малако перастане ўжо выдзяляцца, масажуем вым'я другі раз, не пакідаючы пры гэтым сісёк, але падкідаючы вым'я рукамі ўверх, падобна, як гэта робіць цялё ссучы тую ж карову; тое самае робіцца з другімі чвёрткамі вым'я, пасьля гладзіцца цэлае вым'я з гары ўдол і доіцца далей. Ад гэтага карова йшчэ прыдасьць малака і гэта вельмі добра ўплывае на яе малочнасьць.

Даіць трэба насамперш абедзьве пярэднія сіські, а пасьля абедзьве заднія. Добра выдаіць карову, ды яшчэ некалькі — гэта работа даволі цяжкая і таму у прыкладных гаспадарках выконваюць яе не жанчыны, а мужчыны.

Далей, як падчас даеньня, так і пасьля трэба абхадзіцца з каровай лагодна; карова, якую б'юць ці штоўхаюць, становіцца пужлівай, неспакойнай і тады яна ані выдзяляе, ані выпускае малака. Ня менш важнай рэчай ёсьць не даваць карове нічога есьці падчас даеньня, бо калі яна ў гэту пару есьць, а йшчэ баіцца, каб другая ад яе не адабрала, дык кепска аддае малако. Трэба ад самага пачатку прывучыць карову, што яна дастане належную ёй пашу толькі па скончаным даеньні. Далей, трэба ўважаць, каб даіць карову ўсё ў тым самым часе, найлепш а гадзіне 5-ай рана, 12-ай упалудзень і 7-ай вечарам. Частае выдойваньне падносіць малочнасьць, але часьцей як тры разы ў дзень даіць не аплачваецца.

(*„Сільск. Госп."*) **інж. Р. Я.**



# Аб ськіваньні.

Маем пры гэтым на ўвеце перад усім ськіваньне ў кароў. Разумеецца-ж пад гэтым словам прадчаснае ацяленьне, найчасьцей паміж 5 і 8-ым месяцам.

Усякае ськіваньне гэта для гаспадара страта. Прычыны ськіваньня бываюць або выпадковыя, вонкавыя, або заразныя. У гэтым апошнім выпадку ськіваньне паўтараецца ў даным хляве некалькі разоў і то не ў аднэй штукі, а ў некалькіх.

Выпадковыя прычыны ськіваньня гэта найчасьцей мэханічныя, як усякія удары на жывот, неўласьцівае кармленьне (сапсутай пашай або калі да пашы дамешаны напр. жытнія спарышы ці іншыя труючыя расьціны) або хворасьць радзільных ворганаў маткі.

Прычынай заразьлівага ськіваньня ёсьць асаблівы дробнатвор (бактэрыя), зародкі якога размнажаюцца перад усім у гніючых астатках ськіваючых кароў. Гэтыя астаткі (радзільныя логвы) ў такой жывёлы ніколі ня выходзяць чыста навонкі, але часьць іх астаецца ўсярэдзіне і гніе З цела зародкі гэтыя дастаюцца ў гной, размнажаюцца і калі стуль дастануцца на вонкавыя радзільныя ворганы іншых цельных кароў ці іншай жывёлы, дык іх заражаюць і гэта жывёла таксама ўжо ськівае.

У першых месяцах цельнасьці ськіваньне адбываецца лёгка і скора. У пятым і дальшых месяцах, калі плод ужо бывае большым, ськіваньне становіцца падобным да праўдзівага цяленьня. Толькі па такім ськіваньні лагво астаецца ўсярэдзіне і далей плодзіць заразныя бактэрыі. Ад гэтага настаюць усякія катары радзільных ворганаў, якія даводзяць да поўнай няплоднасьці, жывёла худзее і дойнасьць яе абніжаецца, а падчас і зусім занікае.

Лячэньне пачатага ўжо ськіваньня нічога не памагае. Тым большае значэньне мае асьцярожнасьць прад гэтай хваробай, асабліва прад ськіваньнем заразьлівым. Сьцерагчы трэба цельныя каровы, каб яны аб што небудзь ня ўдарыліся, ня можна паіць іх лішне сьцюдзёнай вадой, ані карміць сапсаванай, заплесьнеўшай пашай. Проці заразьлівага ськіваньня найлепшым лекам ёсьць чыстата і частая дэзынфэкцыя хлявоў; абавязкава чыста трэба прыбіраць усялякія астаткі лагва па цяленьні і часта, па магчымасьці штодзень абмываць вонкавыя радзільныя ворганы цельных кароў дезынфэкцыйнымі сродкамі (найлепшым з іх бадай ёсьць 0. 1% раствор сублімату — рэд.). Аднак пры масавым заразным ськіваньні можа памагчы толькі лекар-вэтэрынар.

**Д-р Ю. З.**



## Пчаляру ў м-цы кастрычніку.

Не пара ўжо пераглядаць пчолы, але калі нехта да гэтага бывае змушаны, хай гэта робіць асьцярожна раніцай або ўвечары. Лёткі павінны быць звужаны, каб пчолы маглі бараніцца прад зладзейкамі — пчоламі і асабліва прад мышамі, якія цяпер шукаюць ужо цяплейшага кутка, каб пераначаваць, а калі пчаляр не агледзіцца, дык і зазімаваць. Найважнейшай аднак справай ёсьць абглядзіць вуль прад халадамі, забясьпечваючы яму адначасна дастатак сьвежага, сухога паветра, якое патрэбна пчолам ня менш як корм. З двух лётак, адна (вышэйшая) астаецца праз зіму адчыненай, хоць і звужанай.

Што датыча забесьпячэньня ад холаду, дык трэба з усей пэўнасьцю зацеміць, што на колькі пчолы баяцца зімна, на толькі шкодна ім і празьмернае цяпло. Тут патрэбна залатая сярэдзіна. Зацёплае зазімаваньне, пры не завострай зіме, змушае пчолаў да прадчаснага пладаваньня, а тым самым і да непатрэбнага вытрачваньня энэргіі. Калі-ж пасьля раптам настане зімно і пчолы ня могуць вылецець у аблёт, дык хварэюць на нястраўнасьць. Цяплейшага зазімаваньня вымагаюць толькі слабейшыя. Старанна трэба абглядзіць, ці няма якіх шчэлін у вульлі, або ці ня крэтаецца нейдзе ў дошцы сук, каторы пасьля можа вываліцца і ў вульлі паўстане шкодны працяг (скразьняк).

У вульлёх амэрыканскіх паміж перагародак і сьценак даюцца бакавыя маты, якія мусяць шчыльна прымыкаць да сьценак вульля. На столь даецца саламяная мата і некалькі аркушоў газэтнай паперы ня друкаванай. Можна таксама з столі павыбіраць дошкі і замест іх паўстаўляць адумысловыя падушкі, выпаўненыя сечкай, мохам, ватай ці іншым матэрыялам, які глытае выдзяляную ў вульлі вогкасьць. Калі няма ані матаў, ані падушак, кладуць тады на столь некалькі аркушоў газэтнай паперы, а на яе — сена, салому і пасьля шчыльна прыкрываюць стрэшкай.

Гэта ўсё была мова аб вульлёх футраваных. Вульлі летнія, робленыя з паадзіночнай дошкі і маючыя зімаваць на дворы, павінны йшчэ апрача таго быць забясьпечаны і з надворку ад маразоў. Калі такіх вульлёў ня шмат, тады кожны з іх паасобку абвіваецца саломай на 4 цалі; вольнай пакідаецца толькі лётка. Калі-ж на пасецы ёсьць некалькі, а тым больш шмат такіх вульлёў, дык іх зносяць у адно месца, састаўляючы ў два рады — лёткамі да сярэдзіны — і ўсе за раз абкладаюцца саломай, ці нечым іншым, падобным, і абвязваюцца.

Хто мае для сваіх пчол вулёўню — там усе гэтыя захады лішнія.

Прыгатаваньне пчол да зімаваньня — для практычнага пчаляра рэч зусім лёгкая, але для пачынаючага вельмі клапатлівая. Меркай умеласьці прыгатаваньня пчол на зіму ёсьць правіла, што калі хто на 100 вульлёў змарнуе праз зіму 5 вульлёў, той ужо благі пчаляр, а хто змарнуе 10 вульлёў, той зусім не павінен звацца пчаляром. Дык трэба аб гэтым памятаць. **В. Ш—к.**

## Як квасіць капусту.

Чым далей, тым болей пачынаюць людзі пераконывацца аб важнасьці для здароўя чалавека ўсякай садовіны і варыва, а перадусім — капусты. Асабліва важнай ёсьць у гаспадарцы — і наагул у сям'і — капуста добра заквашаная.

Якасьць квашанай капусты залежыць: 1. ад гатунку самай капусты, 2. ад якасьці бочкі, у каторай капуста заквашываецца 3. ад умелай працы пры заквашываньні капусты і 4. ад спосабу трыманьня заквашанай капусты. Застановімся-ж тут коратка над усім па чарзе.

1. Капуста выбраная да квашэньня мусіць быць салодкай, мусіць мець у сабе пэўную колькасьць цукру, каторым кормяцца бактэрыі малочнага квашэньня. А на прысутнасьці і магутным разьвіцьці гэтых бактэрыяў, як і самага малочнага квашэньня, гаспадыні мусіць вельмі залежыць, бо ня што іншае, як гэта іменна квашэньне консэрвуе заквашаную капусту і робіць яе ня толькі смачнай і пахучай, але і вельмі здаровай. І калі-б з нейкіх прычын малочнае квашэньне не прыпынілася, дык наступае квашэньне ацтовае, якое псуе ўсю справу беспаваротна. Дзеля гэтага, калі-б быў сумліў, што капуста браная да заквашываньня мае замала цукру, дык ей трэба гэтага цукру дадаць, дасыпаць, або хоць-бы даліць добрага квас-нага малака, ці ўрэшце самай толькі сыраваткі.

2. Другой важнай справай ёсьць выбар бочкі для самага квашэньня. Такая бочка мусіць быць бязумоўна чыстай і па магчымасьці **новай**. А гэта дзеля таго, што ў бочцы, у каторай ужо нешта было, звычайна ўжо сядзяць моцна загнязьдзіўшыся бактэрыі ацтовага квашэньня і не пазволяюць разьвіцца квашэньню малочнаму і ягоным бактэрыям.

Дзеля гэтага да квашэньня капусты найлепш ужываць новых бочак і толькі калі-б ужо іх сапраўды ня можна было чамусьці мець, прыходзіцца браць бочкі ўжываныя (але не старыя!) і іх адпаведна да квашэньня прыгатаваць. Робіцца гэта так: насамперш такія бочкі мусяць быць з пяском добра вышараваныя, асабліва каля пазоў. Пасьля такая бочка вымочываецца так доўга, аж пакуль выліваная кожных 12 гадзін вада будзе сусім чыстая і ня будзе мець аніякага запаху. Вымачаную бочку трэба выпарываць і яна тады ўжо гатова да ўжытку.

З новымі бочкамі трэба паступаць падобна, толькі што ў іх гэта праца робіцца хутка і лёгка.

3. Далей ідзе прыгатаваньне капусты і самае накладаньне яе. Поступ працы больш менш гэтакі: выбраныя да квашэньня галоўкі капусты, цьвёрдыя і здаровыя, перад усім „беляцца," г. зн. складаюцца на таку ў гумне, або ў іншым мейсцы, на вялікую граму ду і накрываюцца посьцелкай, мяхамі, або саломай (чыстай і здаровай!) і ляжаць так з тыдзень часу. Пасьля зложаная капуста адкрываецца, старанна ачышчаецца, адразаюцца качаны, самі галоўкі разразаюцца на палавіну і шаткуюцца.

Шаткаваць трэба капусту прад самым налажэньнем яе ў бочку. На дно бочкі кладуцца чыстыя, цэлыя капусьцяныя лісты і на іх ужо насыпаецца капуста шаткаваная, перасыпаецца сольлю, а хто любіць — і кмінам. На кожныя 10 клгр. (25 фунтаў) шаткаванай капусты сыпіцца 10 дэка (1/4 фунта) солі. Гэтак насыпаная пластамі капуста старанна ўбіваецца шырокімі таўчкамі так доўга, аж пакуль з капусты ня выступіць собскі ейны сок.

Калі бочка ўжо запоўнена добра ўбітай шаткаванай капустай да самага верху, тады на шаткаваную капусту кладуцца ўзноў вялікія цэлыя лісты капусты, на іх — кавалак грубой, але чыстай і нефарбаванай (белай) тканіны (зрэбніны) і на яе — чыстае, г. зв. фальшывае дно (добра да сябе прылягаючыя і ўвесь верх зложанай капусты прыкрываючыя дошкі). Гэта дно націскаецца чыстымі каменьнямі, агульны цяжар каторых спачатку не патрабуе быць лішне вялікім.

Выступаючую вышэй фальшывага дна капусьцяную ваду трэба зьліваць як падчас самога квашэньня капусты, так і пасьля, калі капуста ўжо квасная. Заўсяды аднак крыха такой вады над капустаю быць мусіць.

Прыгатаваная да квашэньня бочка з капустай стаўляецца ў чыстае, нямаючае ніякага запаху памяшчэньне. Тэмпэратура ў такім памяшчэньні мусіць быць даволі высокая, бо аж 18—20°C (тэмпэратура цёплай хаты).

4. Па скончаньні квашэньня бочка з капустай пераносіцца ў памяшчэньне цёмнае і зімное, а на фальшывае дно дадаецца больш каменьняў.

(З *„Ziemlarobskaj Čytanki"* *č. I. А. Клімовіча бач. 79*).

*Не дачакаешся часопісі большай, пакуль складкамі сваімі ня ўтрымаеш часопісі меншай.*

*Сяньня йшчэ вышлі падпіску на адзіную беларускую гаспадарчую часопісь «САМАПОМАЧ»!*

# Што рабіць з памідорамі.

З памідораў можна рабіць вельмі шмат і рознароднай стравы. Толькі да большасьці з іх патрэбны дадаткі, якіх ня можа даць сялянская гаспадарка. А яшчэ часьцей самі памідоры служаць дадаткам да такіх страў, якія ў сялянскіх варунках спаткаць можна ня часта. З гэтай вось прычыны памінаем тут усе тыя рацэпты, якія ў сялянскіх варунках выканаць ня можна, а прынамся — выканаць трудна, і агранічымся да некалькіх толькі найпрасьцейшых.

Успомніць-жа тут мусім перад усім аб такіх прыправах, як:

**Салата з памідораў.** Сьпелыя памідоры крояцца на кавалкі, дадаецца соль, перац, цыбуля, хто любіць — сьмятана, або крыха воцту і алівы. Такая мешанка называецца „салатай" і есца, як закуска, з хлебам і бульбай. Таксама даецца такая салата і да мяса.

**Зупа з памідораў.** Некалькі сьпелых памідораў наліваецца зімной вадой, кладзецца да гэтага пара морхавак, пятрушку, цыбульку і ўсё разам гатуецца. Пасьля гэты навар цэдзіцца, а памідоры добра расьціраюцца на гэтак званым друшляку, або праз сітца. У працэджаны навар кладзецца асобна згатаваны рыж або шальбабон (фасоля) ці якія іншыя крупы і гатуецца. На патэльні робіцца румяная засмажка з масла або з сала і ўліваецца ў гаршчок. Для смаку дадаецца йшчэ сьмятана.

**Сос з памідораў.** Угатаваць пару памідораў, пераціерці праз сітца і дадаць да загадзя зробленай засмажкі з мукі, масла або сала (сланіны) з цыбулькай, разьвясьці ўгатаваным расолам або вадой, дадаць крыху сьмятаны і загатаваць. Гэткім сосам запраўляюцца розныя кашы.

Як прыправа, дадаюцца памідоры да капусты, да галубцоў і да бурачкоў. Ц.

# Як гаспадарыць чэская гаспадыня на вёсцы?

Калі сучасны гаспадарчы крызыс мы, гаспадыні, пачулі найбольш балюча, прычына гэтага ў тым, што выдаткі нашы, пры меншых даходах, не зьмяншаюцца, а павялічваюцца, перад усім на патрэбы хатнія, і нават на яду. Маладым гаспадыням гэта хлопат не малы. Але мы, што перажылі сусьветную вайну, калі досыць было купіць крыху солі, а ўсё рэшта трэба было дастаць з хаты, павінны патрапіць і сягоньня варыць выключна ўсё з нашых хатніх вырабаў, і то варыць танна і смачна.

У маей кухні ўсё прыгатаўляецца з свае гаспадаркі. Малако, масла, сьмятана, хлеб, мука, проса, мак, сала, усё сваё собскае, непрайшоўшае праз кірмашныя будкі... і ніколі ніхто не наракае, што не наеўся...

Як-жа прыблізна выглядае мой стол, магу вам расказаць. Раніцай на сьнеданьне кожны мае на выбар сьвежае малако, варанае малако або белую каву, да гэтага хлеб або кусок булкі з мінулага дня. Чорнай кавы ніколі не даю, бо ўжываю выключна наша пражанае жыта, ячмень або пшаніцу з малым дадаткам кавы запраўднай з зярнят і цыкорыі. У час цяжкай працы, хлеб да кавы мажыцца маслам. А дзевятай гадзіне, калі працуем у хаце (не на полі), кожнаму даю кавалак хлеба з маслам, з гусіным ці сьвінным салам, іншы раз кавалак сланіны або яйко, калі таннае. Жанчыны любяць у гэту пару кавалак хлеба з мармэлядай, мёдам ці з белай кавай, што асталася ад раніцы. У рабочы час гэта другое сьнеданьне раблю мацнейшым: даю яечніцу і па малой шклянцы віна з садовых пладоў. Алькаголю ня купляю. У палудзень даю розныя зупы, часам мясныя, іншы раз малочныя, грыбныя, бульбяныя, хлебныя. Каб былі гусьцейшымі, дадаю крупы з проса, пансак, гарох, шальбабон, бульбу і інш., усё з собскае гаспадаркі.

Мяса ў земляроба ніколі шмат няма... Калі сьвіні танныя, забіваем, каб сала хапіла на цэлы год і ў растопленае сала заліваем у паліваных гаршкох усё мяса і каўбасы (чэхі ня вешаюць мяса ў сьвірнах, як гэта робіцца ў нас, і таму ня ведаюць, што такое мяса зьялчэе — р э д.). Не заліваю толькі сланіны. Да гэтага на зьмену ўзімку забіваю часам труса, а на вясну — якое казьлянё, часам курыцу ці якую дзіч. Увосені качку або гусю, а часам нешта каровяе. Гэтак маю найлепшы і найтанейшы выбар. Салам і сланінай скварку ўсякую гародніну, маслам — булку і інш. Гусінае і качае сала йдзе, як памазка на хлеб...

Гародніна ўжываецца штодзень усяляк прыпраўленая. Што астанецца ад абеду, запраўляецца яйком і даецца на вячэру. Звычайна-ж на вячэру даю малочную хлебную ці іншую зупу з бульбай варанай, печанай, тушанай і г. д. Бульбу для большага смаку часам заліваю злёгка маслам. — Іншы ўзноў раз даю на вячэру малако — прэснае або кішонае — сыр, масьлянку...

Калі хачу варыць ашчадна, ня смажу курыну ў м-цы красавіку, не вару яйка ў м-цы студні і г. д., калі ўсё гэта найдаражэйшае, тады ўсё гэта прадаю. Па новым годзе, калі ўсюды коляць, рэжаць, усё гэта таннае і тады раблю запасы мяснога, а масла тады дарагое і яго, старанна выпрабленае і хораша ўкручанае, прадаю. Ці то будзе яйко, ці бульба, давайце на рынак усё перабранае, выцертае. Гэтым здабудзецца сабе сталых і добрых купцоў, якія самі будуць у вас цэлымі гадамі купляць і іншых яшчэ прывядуць.

Вясной укладаю яйкі ў солі; яйко гэтак вытрымае да зімы, а соль можна далей выкарыстаць. Варыва, якое цяпер ужо станела, сушу і заварваю. На рынак цяпер загатаўляю ранныя кураняты, качаняты і гусяняты. Калі рынак гэтым таварам запоўніцца, тады буду гэты тавар выкарыстоўваць сама ў сваёй гаспадарцы.

Улетку танее масла і яго тады пакідаю дома, ці то на хлеб, ці то перапускаю і захоўваю да смажэньня ў кухні. Тое самае з яйкамі.

Выбраныя ранныя садовыя фрукты прадам; калі-ж яны танныя, лепш іх засмажу, нараблю мармэляды, павідлаў, віна.

Хатнюю птушку, каторая на восень бывае таннай, выкармліваю: маю з яе мяса, зупу і сала. У гэту-ж пару знойдзецца ў гаспадарцы нейкае ягнё ці казьлянё: забіваю гэта, каб прылепшыць стол для работнікаў, што цяпер цяжка працуюць пры капаньні бульбы, буракоў. Усякія косьці растоўчаныя, астаткі ежы, абрэзкі варыва і фруктаў вельмі любіць хатняя птушка.

Час грыбоў: зьбіраю іх, а як не магу сама пайсьці ў лес — куплю, выменяю, але грыбы мецъ мушу.

Аб усім гэтым можна было-б пісаць цэлыя кнігі. Усё мусім ўжываць з свае собскае гаспадаркі Часы цяжкія: чым далей будуць меншыя даходы, меншыя пасагі. Кожную дзяўчыну пашлеце ў гаспадыньскую школу, а не пасылайце яе вучыцца ў рэстаран ці на клябанію. Памятайце, што для гасьцей будзе варыць рады — ў — гады, але ашчадна і для гаспадаркі будзе мусіць варыць праз цэлае жыцьцё. Земляроб патрабуе добрую, ашчадную жонку, а ня даму да пячэньня тортаў, варэньня мокка і г. д Жонка земляроба мусіць выкарыстаць і абярнуць усё ў грошы, а не разнасіць цэлую палову дня грошы да разьніка, цукерніка, вандлярніка ці да розных рэстаранаў... У земляробстве жанчына кругом мае працу і ашчаднасьць, але яна і каралева сярод свайго каралеўства. Ці то ў кухні, ці ў агародчыку, паміж птушынай драбязой ці між жывёлай. Калі яна інтэлігентная і разумная, кожны яе паважае. — Калі хочаце выхаваць сваіх дочак на добрыя гаспадыні, пашлеце іх на практыку да іншай гаспадыні — навучыцца больш, як у хаце... І для нас настануць лепшыя часы, але іх мусім самі сабе прыгатавіць. А гэтага ад душы жадаю ўсім мужчынам і жанчынам.

(*„Zemĕd. Jednota“ Nr. 1/32*).

**Фр. Валькова.**

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

# ГАСПАДАРЧАЯ ХРОНІКА.

„Беларуская Борць“ — часопісь для справаў пчалярскіх і зёлкавых—пачала выходзіць у Вільні пад рэд. грам. Л. Войцікавай. Выдае беларускае Кооп. Т-ва „Пчала.“ Адрэс: Вільня, Каралеўская 3—8.

Новэя тарыфа на пошце заведзена ад 1 кастрычніка сёлета ва ўсей Польшчы Выглядае яна гэтак: за краёвыя (не заграмічныя) пісьмы 25 грашоў, за паштоўкі (адкрыткі) 15 грашоў. За заграмічныя пісьмы —55 грашоў, за заграмічныя паштоўкі — 30 гр. Пісьмы ў Аўстрыю, Вугрыю (Мадзяршчыну), Чэхаславаччыну і Румынію — 45 грашоў, а паштоўкі — 25 грашоў.

Як падпісываць вэксалі. Найлепш, калі земляроб вэксалёў зусім ня ўжывае, бо гэта „ратунак“ надта небясьпечны. Калі-ж аднак вэксалю абмінуць ня можна, дык падпісаваць іх, згодна з вымогаю „Банку Польскага,“ трэба поўным імем—а ня толькі аднэй першай літарай — і прозьвішчам. Вэксалі падпісаныя скарочана Банк ня можа дысконтаваць. Скарочана можа падпісавацца толькі акцэптант (той, хто вэксаль мае заплаціць) і то тады толькі, калі пад подпісам ставіцца ягоны штамп, з каторага відаць выразны адрэс падпісваючага.

Вернуць ці ня вернуць? Нашы чытачы ведаюць ужо, якія няўстойкі пераживаў за сёлетняе лета аграномічны Аддзел Віленскага Унівэрсытэту Вось-жа паводле апошніх вестак Аддзел гэты сапраўды вісіць між небам і зямлёй: запісы студэнтаў на гэты Аддзел прымаліся, школьны год ужо пачаўся, але афіцыяльнага пацьверджан ня з Варшаўскага міністэрства што Аддзел гэты будзе ненарушана далей існаваць, дагэтуль няма.

Можа будзе?

Закупы збожжа для войска. На абшары Віленшчыны вайсковая інтэндантура мае закупіць: у м-цы кастрычніку — 190 тонаў (у тоне 1.000 кілёграмаў, або 61 пуд) жыта і 600 аўса, у м-цы лістападзе 400 тон жыта і 500 аўса і ў м-цы сьнежні—156 т. жыта і 500 т. аўса.

Скуп коняў для войска. У міжчасе ад 8 кастрычніка да 13 сьнежня сёлета ў асобных гарадох і мястэчках нашага Краю будуць скупліваць коняў для войска. Рост каня павінен быць ня ніжэйшы 145 см. і ня вышэйшы 150 ст. Цана даволі разнародная, ад 300 да 3.000 злотаў, залежна ад якасьці каня Апрача таго большую цану атрымоўваюць тыя, хто належа да гадаўляных гурткоў, а таксама тыя, хто прадаванага каня сам выгадаваў, або прынамся гадаваў найменш 6 месяцаў. На зборным пункце трэба быць у азначаным дні ўжо а гадзіне 7 рана, каб дастаць карту ўступу. Бяз гэтай карты ніхто ня будзе магчы прадаць каня. З сабой трэба мець усе дакуманты аб каню. Зборныя пункты назначаныя ў наступным парадку: 8—9 кастрычніка — у Відзах, 10 кастрычніка — у Друі, 6 лістапада — у Лявічах, 7—8 лістапада — у Міры, 9 лістапада — у Наваельні, 4 сьнежня — у Скрыбаўцах, 5 сьнежня — у Лідзе, 6 сьнежня — у Багданаве, 7 сьнежня — у Маладэчне, 12 сьнежня — Сьвянцянах і 13 сьнежня—у Глыбокім.

# Наша пошта.

Коопэратыва „Поўня“ ў Бр.—Ваш рахунак у П.А.Т. зьменшаны да нормальнай вышыні, г. зн. да 10 зл. і 50 гр. Мы аб гэтым дасталі афіцыяльнае паведамленьне. Рэшту, г. зн. 63 зл. Вам мусіць быць вернена. Заслуга гэта кіраўніка нашага аддзелу праўных парадаў.

Коопэратыва „Самапомач“ у В. Л.: У Вас справа падобная, як пададзена вышэй. Прышлеце нам копіі сваей перапіскі (што каму пісалі і што скуль атрымоўвалі) у справе гэтай абвесткі, а мы папрабуем і Вашай справе даць належны ход. Не адцягівайце толькі.

Я. Вільк—і, Я. Мар—ч, С. Ур—ч і М. С—к: Дзякуем за выказаньне сваіх паглядаў на закранутую справу. Можа-б Вы ў сваіх ваколіцах сарганізавалі „дзесятку“ „Самапомачы?“

Б. Др—віч у С: Ня можам з прысланага скарыстаць, бо ані з гаспадаркай ані з беларушчынай ня мае гэта нічога супольнага.

Гаспадару ў Ж: Калі толькі можаце залажыць коопэратыву — закладайце. — Што да коопэратыўнай ў Вас малачарні, дык ясная рэч, што яна вельмі карысная. На выпадак, калі-б ня можна было яе заснаваць як коопэратыву, закладайце як контрактовую супалку. Аб гэтакіх супалках „Самапомач“ будзе пісаць у найбліжэйшым часе.

Мір—к і П. Гап.—к: Адказы у справах адвакацкіх Вам высланы асобнымі пісьмамі: ці атрымалі?

Ал. Ан—к: Атрымалі і падзялілі павопле Вашай волі.

Б. За—м, С. С—скі, М. М—р і Д. Н—ая: атрымалі; пачнём высылку Курсу Коопэрацыі ў гэтым ужо месяцы.

*УВАГА!* *УВАГА!*

*Пры рэд. «Самапомачы» ўведзены аддзел праўных парадаў, якім кіруе безінтэрасоўна беларуская адвакацкая сіла. Асобы, якія маюць якіясь пытаньні, павінны іх ясна і выразна напісаць на пісьме і прыслаць у нашу рэдакцыю. Адказы — невялікія будуць друкавацца ў «Самапомачы». На адказы большыя трэба далучыць паштовую марку за 25 грашоў.*

*Рэдакцыя „САМАПОМАЧЫ“*

